# Вяселле над Свіслаччу

Усім было вядома, што Янка і Жэня да сябе далёка не абыякавы.

І вось нават самі не зглядзіліся, калі прыйшло вяселле.

*

Ля наўсцяж расчыненых акон хаты маладой у Навасадах мітусіўся натоўп аднавяскоўцаў. Пад акампаніямент гулівых пераліваў гармоніка вясельнікі збіраліся да ад'езду ў царкву. А пошнія спозненыя дружбанты выкуплялі ад старшай дружкі беленькія банцікі з галінкамі шпарагі ці мірту. У акне цікаўныя твары замерлі ў чаканні: — Ці не спатыкнецца часамі маладая, калі яе сват маладога тры разы будзе абводзіць наўкол сталоў?



— Едуць!!! Едуць!!...

Вокны вясковай хаткі невялікія, не ўсе могуць прасадзіць туды сваю галаў. Які жаль! А таксама цікава паглядзець, як стары Антон благаславіць маладую пару.

Пасля, як гэта прыстала спрадвечным звычаем, Антон урачыста і дастойна, з хлебам і соллю на талерачцы ў адной руцэ, з пугай фурмана маладой у другой, пачаў абходзіць сціснутыя на невялічкім панадворку вясельныя фуры.

Пасля гэтага маладыя паехалі ў царкву.

Цераз некалькі гадзін вяселле вярнулася.

Сустрэў яго Антон з хлебам і соллю, а Палося белюсенькім, як снег кужалём выслала маладым дарогу.

Як звычай, першую чарку выпілі за шчасце і светлую будучыню маладых.

У гэты вечар музыкам не было адпачынку. «Сто лят» звонка няслося аж на паплавы глыбокай Свіслачы, «горка» заглушвала вечаровы гоман вясковай вуліцы І так аж да белай раніцы.

На другі дзень, пасля абеду, сват маладога ўзяў у свае рукі ўладу. Вядома: — Дарэнне —.. але аб гэтым пасля.

*

— Хлопцы! Мы іх так не прапусцім. Давайце, за работу!

Не мінула і двух гадзін, як перад Мастаўлянамі ўжо стаяла трыумфальная брама ўпрыгожана зелянінай і бэзам. Энергічны Валодзька паспешліва тарабаніў столічак. Міхася яшчэ не было — пабег па віно, чаркі і абрусік. Пара маладых, сваты са сваціхамі, пасля дружбанты з дружкамі, абавязаны перад трыумфальнай брамай па-парадку зыйсці з фур, наблізіцца да століка і «перахіліць» чарку. (Ясна, што не за дарма).

Хлопцы ўрачыста сустракаюць свайго сябра дзяцінства і юнацтва, які цяпер прывозіць у сваю вёску маладую жонку.

Паважаны Андрэй Пятровіч, бацька маладога, сёння моцна ўсхваляваны.

— Люба! Ці не едуць ужо? — азваўся да жонкі неспакойна глянуўшы на сподачак з хлебам і соллю.

За вокнамі, на вуліцы пачуўся грукат колаў. Пасаг! Музыка кінуўся да дзвярэй, за ім мільганула лысаватая постаць свата.

— А скуль вы, добрыя людзі, едзеце, што вы такое вязеце?

— Дабро маладой!

— То, калі ласка, у нас вялікая хата, з сэрцам прымаем. Заходзьце..

— Братачка! Памаленьку. За дарма хацелі-б?! А выкупіць не ласка!...

Не хутка дайшлі да ладу абодва сваты. Адзін, як і другі, былі вельмі-ж красамоўнымі...

Што там было ў гэтым куфары — невядома. Ці кужалю поўна, ці што іншае — але чатыром дружбантам аж вочы вылазілі на лоб, пакуль знялі куфар маладой.

Цётка Еўдакія суправаджала іх з куркай, якая нічога не прадчуваючы спакойна бліскала то адным, то другім вокам, відавочна, дзівячыся, чаму не далі ёй спакойна спаць.

У хаце грымнула песня.

*Каб я гэта знала,*
*Што так замужам ліха*
*Та-й сядзела-бы, бульбу ела-бы*
*У матуленькі ціха...*

Калі пад поўнач узыйшоў на небе месяц, дружбакі не стрымалі: — Музыка! На забаву!

Хто-ж лепш ад іх у свеце затанцуе польку ці лявоніху...

На другі дзень нялёгкую мелі задачу сваты, пакуль удалося сабраць усіх гасцей. Калі сабраліся музыкант зайграў на «дзень добры». Неўзабаве ля акон з'явілася групка жанчын з прыбранай каляровымі істужкамі галінкай бэзу. Жартуюць, смяюцца. Сват маладой неспакойна круціцца — яму гэтая галінка, — хутка пачнецца адказная місія. Дзесьці ўжо рыхтуюць ручнік — знак улады.

І пачалося:

*Гэй, прыяцяле,*
*Не будзьце круцяле,*
*Шэвелісь*
*У каго грошы завеліся!?*

*...Дару цябе кальцом*
*Каб не быў удаўцом.*
*...Дару цябе дугою*
*Каб не хадзіў за другою.*

Чырвоны, вясёлы Сцяпанка кладзе на сподачак мініятурна зробленую з галінкі дугу з шпарагай.

*...Дару цябе паперамі,*
*Каб не хадзіла за кавалерамі.*

*...Невялікі падарак,*
*Хлеба кавалак*
*Прашу прыняць*
*Бо цяжка трымаць.*

І так, у бясконцасць. Аж да падвячорка. Да «курыцы»...

Адкуль узяўся звычай з курыцай, што ён абазначае — невядома. Старэнькая Еўдакія кажа: — Прывезену курыцу трэба забіць і няхай уся бяда маладой скончыцца на гэтай страце.

І вось амаль усё вяселле высыпала на панадворак. Дружбанты лавілі да поўсмерці перапалоханую курыцу, якую выпусціла Еўдакія. Няма ратуначку беднай курыцы, трапіла ў Сцяпанкавыя рукі.

— Бачыце, якая хітрая? Адразу па два яйкі стала несці, каб выкупіцца ад смерці — кажа жартаўнік Антось, падсунуўшы пад курыцу загадзя прынесеныя яечка.

Воз ужо чакаў яе. Дзіўны гэта быў воз, якім мелася ехаць курка у сваё апошняе падарожжа да недалёкай рэчкі. Два запасовыя колы: адно на возе, другое між аглоблямі, у хамуце, — замест каня. Воз папіхаў конь запрэжаны з-заду.



...Дзіўны быў гэты воз,на якім мелася ехаць курка.

На возе «хірург» у акулярах, «доктар» і іншыя таямніча прыапранутыя постаці. А за імі не толькі ўсё вяселле з парай маладых, але і уся вёска. Штосьці спрадвечнага, таемнага, было ў гэтым абрадзе.

«Хірург» у момант правёў «аперацыю». Галоўка курыцы пакацілася па зямельцы, другія пабеглі над рэчку раскладаць вогнішча. Кожны стараўся, каб хоць разок скубнуць курыцу. Вакол лётала пер'е, грыз вочы дым, а музыка рабіў сваё.., эх, каб вы чулі, як грае Трахім!

Яшчэ некалькі мінут і нутро курыцы паплыло з плынню Свіслачы, яшчэ астатні спалоск «кухара» і бедная курка гатова ў гаршчок.

Конь заняў ужо сваё належнае месца, а вясельнікі з новай закускай павярнулі назад...

Над зямлёю слаўся мяккі змрок майскай месячнай ночы...

Сярод квітнеючых кустоў бэзу выйшлі на шпацыр Янка з Жэняй. Перад імі пачынаецца новая дарога жыцця.

С. ЯНОВІЧ.
Фото — І. РЫБІНСКІ



...Кожны стараўся хоць раз скубнуць...



— Адкуль вы добрыя людзі едзеце? — Што вы вязеце?

ЗІНАІДА БАНДАРЫНА

## Ой, рана на Івана*

*(Старонкі маленства Янкі Купалы)*

Слухаючы іх, Янка шэпча:

— Не бойцеся, не кране ён вас, ён толькі сухастой сячэ, той, што з карэнняў усыхае, не расце.

Задумаецца і не чуе, што бацька кліча. А Дамінік Ануфрыевіч злуецца:

— Чыстая бяда мне з табой... У людзей хлопцы як хлопцы, бацькам памочнікі... А тут... Хоць ты яму кол на галаве чашы, не бярэцца за работу...

Крыўдна слухаць гэтыя дакоры. Стараецца Янка дапамагчы бацьку, але сілы ў яго не хапае, не выцягнуць бервяна са снегу. І так і гэтак прыступае да яго хлопчык, цягне за сабой абедзвюма рукамі, а яно ні з месца.

З таго часу, як не ўдалося паступіць у рэальнае вучылішча, ён больш не прасіўся ў школу, маўчаў. Вечарамі займаўся з сёстрамі. Падсаджваўся да іх бацька. Разам з дзяўчынкамі вучыўся ён рашаць арыфметычныя задачы. Паглядзіць Бянігда Іванаўна на свайго першынца, змахне слязу. Янка стаў увесь празрысты, на вачах сохне.

### ЖАДАНЫ ГОСЦЬ.

Пачаліся лютаўскія завірухі. Глуха і журботна шумеў лес. У заснежанае акно нехта пастукаўся.

— Скокні, Янка, адчыні дзверы! — пачуўся бацькаў голас.

Янка прытуліўся да печы, чытае. Цяжка яму адарвацца ад кнігі.

— Не чапай яго, цэлы-ж дзень дапамагаў табе ў лесе. Сядзі Ясь, я сама... — запярэчыла маці і пайшла ў сенцы.

У хату ўварваўся халодны вецер. Янка ўбачыў, як услед за маці ўвайшоў заснежаны незнаёмы чалавек. Бараду, вейкі і бровы яму апушыў белы снег, увесь ён быў падобны на засыпанага снегам лесавіка, хоць відаць доўга абтрасаўся, пакуль зайшоў. Зачыніўшы за сабой дзверы, ён павітаўся і маладым гучным голасам складна загаварыў.

— Прымайце, людзі добрыя, малайца, Сцяпана Песляка-ўдальца!

— Як-жа не прыняць?! Добры гаспадар у такое надвор'е і сабаку з двара не выганіць. Праходзьце да печы, абагрэйцеся, ды за стол сядайце! — замітусілася Бянігда Іванаўна, спрытна вымаючы на прыпечак чыгун з гарачай капустай.

Сцяпану Песляку спадабалася ветлівая гаспадыня. Дзень ён пражыў. два... Пагаліўся, адразу памаладзеў. Пачаў прасіцца да Луцэвічаў у парабкі:

— Што каму суджана, дык і пехатой таго не абыдзеш і канём не аб'едзеш...

— Былі-б у мяне дочкі дарослыя, у прымакі ўзяў-бы... Парабкаў не нам трымаць... — адказаў Дамінік Ануфрыевіч.

— Што прымак, што парабак — адзін табак. Я за славаю ды багаццем не ганюся, а табе ў гаспадарцы спатрэблюся. Давай па руках!

Ударылі па руках. А Янка ўсё слухаў-бы і не наслухаўся — гэтак складна гаворыць малады

(Працяг на стар. 4)

*) Пачатак глядзі ў № 17, 18, 19, 20, 21 і 22 „Нівы"

 

# Каштаны, каштаны...

Буйныя, духмяныя, прыгожыя кветкі спаборнічаюць з бэзам, ландышам і іншымі майскімі цудоўнасцямі. У гэты час квітнеючыя каштаны амаль заўсёды напамінаюць нам вясеннія экзамены — атэстат сталасці — «матуру».

Хто-ж з нас не перажываў якога - небудзь экзамену?! А што-ж ужо гаварыць перад самым важнейшым. Як-бы чалавек не быў падрыхтаваны, усё-ж такі ніколі не будзе занадта пэўным. І вось іменна ў гэты час квітнеючых каштанаў найбольш хвалюецца моладзь. Хацелася-б бестурботна пайсці паміж гэтымі дрэвамі, пахнеючымі вясной, напасвіць вочы сакавітай зялёнасцю, бесклапотна паглядзець на воды. А тут трэба здаць «рахунак» больш чым з дзесяцігадовай працы.

Уласна кажучы «матуральны» артыкул я намеран быў распачаць так:

«На пустых калідорах Агульнаадукацыйнага Беларускага ліцэя ў Бельску - Падляскім, дзе-ні-дзе відаць групкі вучняў (вядома, неспакойных!), быццам стрывожаныя, некаторыя з іх яшчэ апошні раз заглядаюць у кніжкі і нешта чытаюць. Няма звычайнага, штодзённага гоману і смеху. — Вядома «матура». Але падрыхтаваны мною загадзя пачатак артыкула, аказаўся зусім недарэчны. Аж здзівіла мяне.

Моладзь застаў я вельмі вясёлую, можна сказаць цалкам бестурботную. — Дзяўчаты і хлопцы выстраеныя, а дырэктар ліцэя Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч усміхаючыся быццам гаспадар, які ўлетку пасля поўдня едзе па дародныя, зрэлыя, сухія снапы.

Экзамен пісьмовы па беларускай мове. Замест перапалоху я бачу ў вучняў вялікую зацікаўленасць. Што там можа быць, у гэтым канверце? — Якія могуць быць тэмы? І вось зацікаўленасць іх заспакоена. Яраслаў Васільевіч разрывае канверт — чытае. Ілья Захаравіч Бернат піша на дошцы:

1) Рэалізм у дарэвалюцыйнай творчасці Я. Коласа, Я. Купалы і Зм. Бядулі.

2) Ананімная літаратура XIX стагоддзя — яе характар і змест.

3) Патрыятызм беларускага народа ў творчасці Куляшова.

— Так гэта зусім лёгкія тэмы! — чуваць волгукі вучняў. Хутчэй раблю здымкі, паказваю пяць пальцаў — гэта значыць жадаю ім усім пяцёрак і падаюся ў дзверы.

На калідоры стаіць «варта» — двух вучняў, каб ніхто не ўваходзіў у клас, каб ніхто не гаманіў.

Якія плады даў Беларускі ліцэй у Бельску - Падляскім на працягу сваёй пяцігодкі? Роўна 150 выпускнікоў з якіх 56 вучыцца ў Вышэйшых навучальных установах у нашай дзяржаве: Медыцынскай Акадэміі, Вышэйшай школе сельскай гаспадаркі Палітэхнікуме, Вышэйшай школе педагагічнай, Вайсковай Акадэміі Тэхнічнай і г. д. Шмат з іх вучыцца таксама заграніцай у Совецкім Саюзе. Многія з'яўляюцца ўжо лекарамі, інжынерамі, тэхнікамі і добрымі педагогамі. З усімі школа мае сціслы кантакт. Вывучэнне прадметаў на беларускай мове не перашкаджае ім вучыцца ў польскіх і совецкіх вышэйшых навучальных установах. Пераважна ўсе вучацца на выдатна.

Рэшта займае высокія дзяржаўныя пасады ў войску, Радах Народовых і розных прадпрыемствах.



*Выпускнікі Беларускага ліцэя ў Бельску - Падляскім з 1956/57 навучальнага года.*

Назаўтра я атрымаў запіску, у якой Яраслаў Васільевіч паведамляе мяне, Зіна Дзенісюк, Мікола Сычэўскі, Яўгіня Дамброўская, Валя Сасна, Васіль Ляшэўскі, Міраслаў Здзітавецкі, Васіль Ляшкевіч і іншыя напісалі на выдатна і добра. Што вучні пісалі на ўсе тэмы, а 14 з іх будуць звольнены ад вуснага экзамену па беларускай літаратуры і граматыцы. Значыцца, добры гаспадар з Яраслава Васільевіча, добрыя плады даюць дрэўцы і добрыя возіць снапы...

Каштаны, каштаны.. Тады, калі з гэтых кветак вырастуць цёмна-бранзовыя плады і калі яны будуць «лятцець з дрэва» з 41 выпускнікаў гэтага года 14 пойдуць на вышэйшыя навучальныя ўстановы, у гэтым 3 на беларускую філалогію і 1 на англійскую. Малавата. Але можа яшчэ больш надумаецца. Асабліва гэтыя выдатнікі...

Каштаны, каштаны, буйныя, вясеннія кветкі — буйныя як сама маладосць.

І. ВЕРАС
Фото аўтара

Пісьмовы экзамен па беларускай мове.

# Лепш позна — чым ніколі

Амаль ва ўсіх выпадках, у вёсцы, дзе будуецца школа Бацькоўскі камітэт прыходзіць з выдатнай дапамогай, асабліва пры працаёмных работах, а ўклад іх працы сягае некалі 40 прац. агульных контаў.

Бацькаўскі камітэт у Мастаўлянах, Беластоцкі павет — не можа гэтым пахваліцца. Дзяржава пабудавала ім вялікую, прыгожую школу. Ані адзін чалавек з Мастаўлян не прылажыў да гэтага рук.

Школа пабудавана, але дарогі да яе няма.

І вось цяпер абдумаліся Мастаўлянцы і пастанавілі раскапаць узгорак і зрабіць дарогу даўжынёй 300 метраў. Апрача гэтага абсадзіць яе авацовымі дрэўкамі.



*На здымку: новапабудаваная школа ў Мастаўлянах.* Р.

## Трэба камусь зрабіць... лазню

Ужо ад двух гадоў усім вядомай з'яўляецца справа пабудовы лазні ў Белавежы.

Не будзем пераконваць аб неабходнасці гэтай, усё-ж такі, карыснай інвестыцыі, асабліва ў мясцовасці несканалізаванай і пазбаўленай хатніх ваннаў. Дацаняюць гэта ўсё жыхары Белавежы. Злажылі на гэтую патрэбу 11 000 злоты і задэкларавалі работы на суму 50 000 зл.

Асталося-б толькі прыступіць да будовы. Але што-ж, калі Ваяводскае Праўленне гаспадаркі комунальнай у Беластоку ўжо другі год адцягвае з дакументацыяй.

Варта было-б там камусь зрабіць сапраўды добрую лазню. Р.

— Адну нядзелю ў царкве ксёндз служыць, другую — бацюшка. Кажуць, гэта нейкая унія. Так і сам не разбярэш, якой ты веры і ў якую веру трэба дзяцей хрысціць! — Хрэсьбіны былі адкладзены на восень.

Аднойчы Бянігда Іванаўна запрапанавала малой Лёлі:

— Ты, дзіцятка, сама выбірай сабе хросную маці. Каго захочаш...

Малая імгненна падбегла да Янкі, схапіла яго за руку і прывяла да маці. Не вагаючыся, яна зрабіла выбар.

У канцы жніўня Пясляк сустрэўся з Янкам у панскім садзе. Хлопчык ішоў дарожкай і цягнуў за руку малую Лёлю, якая ўпіралася.

— Ха-ч-ч-у яблык! Ясік, дай мне яблык чырвоненькі, вось гэты! — і яна цягнула брата назад.

— Няможна. Чуеш, Лёлечка, няможна... То панскія яблыкі, панскі сад. Убачыць нас пан, скажа татку.

— Дай яблык! Д-а-а-й!

Над самай Янкавай галавой звісалі цяжкія галіны з духмянымі жоўтымі антонаўкамі. Здавалася, вось-вось яны самі адарвуцца, зваляцца на зямлю. Лёля нечакана расплакалася.

Янка падхапіў яе на рукі, нёс і ціхенька ўгаворваў:

— Не плач... Некалі пасадзім сады, будзем мець свае яблыкі. Вырастуць яблыкі смачныя, чырвоныя. Я падсаджу цябе — і ты сама нарвеш сабе яблык, колькі захочаш, — ласкава гаварыў ён.

Пясляк ужо нарваў поўныя кішэні, але не вытрымаў, выглядзеў лепшы яблык, сарваў яго і працягнуў Лёлі.

— Няможна, то панскі... — разгублена пазіраючы на Янку, лепятала яна.

У ВОЛЬНЫ ЧАС

Адразу за сядзібай пачынаўся беластволы бярэзнічак. Бярозкі адна ў адну, стройныя, чыстыя. Хто ні пройдзе паўз іх — залюбуецца. Крыху далей, на самым сонцапёку, раслі маладыя сасонкі, за імі — зараснікі арэшніку, яшчэ праз некалькі крокаў — густы асіннік. І толькі прабраўшыся праз яго можна было выйсці на поле, за якім пачынаўся велізарны лес. На ўзлессі вынесліся пад неба мачтавыя сосны, побач з імі раскінуліся цёмназялёныя шатры ёлак, а па схілах яроў разросся маліннік, там-сям сярод папараці тырчэлі старыя падгнілыя пні. Неяк увечары Янка заўважыў, што адзін з іх свеціцца. Зеленаватае фасфарычнае святло мякка лілося ў вячэрнім змроку.

— Святляк! — узрадаваўся Янка і падабраўся бліжэй. А светляка не было. Янка абмацаў мяккі збуцвелы пень, які лёгка распалаўся на гнілушкі, і яны свяціліся, ззялі. Ён набраў іх у шапку, прынёс на сенавал. Калі сцямнела, прыйшлі сюды сёстры.

— Глядзіце, Ясева шапка гарыць! — у здзіўленні і спалоху крыкнула Маня. Нарабілі дзяўчаткі шуму. А пазней яны самі бралі гнілушкі ў рукі і гулялі з імі.

З таго часу адзічэлыя глухія мясціны ў лесе асабліва палюбіліся Янку. Нярэдка ў канцы ліпеня або ў пачатку жніўня прыводзіў ён сюды сясцёр па маліну. Сам збіраць ягады не любіў. Ляжа на высокую духмяную траву, падложыць рукі пад галаву і, не адрываючыся, глядзіць на неба. Глядзіць, як у яснай яго сіні праплывае пушыстае белае воблака, то ператвараючыся на вачах у беласнежны статак лебедзяў, то ў сівога гусляра. Плывуць яны ўдалячынь, і ўслед за імі плывуць Янкавы думкі. Хацеў бы ён сам стаць белым воблакам, ды няма яму на свеце нічога мілей і прыгажэй за родны лес, поле, рэчку. Вельмі любіць ён песні і казкі, якія чуе ад пастушкі, сваёй маці, Песляка. У кнігах іх шукаў — не знайшоў. Можа, ніхто больш іх не ведае? Сабраць-бы ў кніжку ўсе песні і казкі, што чуў, каб усе чыталі! Як сустрэне Валодзю, скажа яму пра гэта.

Восенню і ў бярэзніку, і ў вялікім лесе з'явілася мноства грыбоў. Янка сплёў лазовыя кошыкі сабе і сёстрам, выразаў з арэшніку палку. У нядзелю яшчэ досвіткам ціхенька падымаўся, будзіў дзяўчат.

— Маня, Анця, уставайце! У грыбы пойдзем!..

— Рана яшчэ, Ясь, цёмна!

— Мы ў лесе пачакаем, пакуль развіднее.

Клубіўся туман над далінамі. Мякка слалася пад нагамі ацяжэлая ад расы атава. Наперадзе крочыў Янка: палка — у адной руцэ, кошык — у другой. За ім, стараючыся перагнаць адна другую, спяшаліся сёстры.

У лесе было сапраўднае прыволле. Янка ведаў усе грыбныя мясціны. Пад разлапістымі ёлкамі выглядалі з пушыстага моху цёмныя галоўкі баравікоў на мясістых белых ножках. Акуратна падразаючы іх ножыкам, Янка гаварыў дзяўчатам:

— Цяпер на карэньчыкі, што ў зямлі засталіся, мох пакладзем, каб цяплей другім было расці...

І раптам змоўк, так і застыў на месцы і слухае, як шуміць лес, як спяваюць птушкі.

*(Працяг будзе)*



 

# СВЯТА
## маладосці і радасці



*І вось сустракае вас дзяўчына з вядром.*
*— Калі ласка — у фантавай латарэі можаце выйграць вельмі атракцыйныя прадметы!*
*Казімір Белаброцкі з Белавежы не верыў, але што-ж 3 зл. не вялікія грошы. За 3 злоты выйграў... радыё.*
*Апрача мілых неспадзяванасцей, латарэя дала 3.000 даходу.*



*Энтузіястычныя апладысменты збірае Вася Кардзюкевіч з Бельска. Каб Вы чулі, як Вася іграе, а як спявае!...*

Міма неспрыяльнай пагоды, холаду, а часам і дажджу на перадфестывальны фестын у Белавежы прыехала больш 8 тысяч чалавек.

Былі экскурсіі амаль з усіх паветаў Беласточчыны, а нават з Варшавы і далёкага Вроцлава.

Не верыце? Вось толькі на чыгуначнай станцыі прададзена больш 5.000 білетаў. Рэшта прыехала аўтобусамі, а то й пехатою з навакольных вёсак.

Збіраліся не толькі маладыя і дзеці, але напрыклад з Бельска, ехалі старэнькія бабулькі. І гэта, не на які там «фест», а проста на фестын.

Не ведама, дзе пайсці і на што глядзець. Пабач спартыўныя спаборніцтвы. Бельск перамагае. Веласіпедныя гонкі на 45 км выйграў Вася Красуцкі і Гэнрых Яблонскі з Бельска. Там бегаюць на 100 і 1.000 метраў. Там спаборніцтва ў плаванні. Нажаль пры такой непагодзе не магу зрабіць спартыўных здымак.

Трэба падкрэсліць, што арганізацыя была вельмі добра. Фестын закончыўся позным вечарам.

Не вельмі ахвотна моладзь пакідала Белавежу. Колькі жыццярадаснасці, перажыванняў і вясёласці можна было прачытаць з твараў юнакоў і дзяўчат.



*На паляне сабралося каля 8 тысяч гледачоў.*





*Беларускі «Крыжачок». Выконвае Тамара Савіцкая з сваім сябрам з Бельска.*





*Як відаць, з вялікай цікавасцю глядзелі самыя маладыя. Хітра сачылі за кожным тактам танцуючых пар.*

*Няма сумнення, што яны таксама, а мо' нават і лепш будуць танцаваць, а асабліва Галя Матыль (у белай хустачцы).*



*Народ з войскам — войска з народам!*









*Не меншыя апладысменты збіралі гурткі мастацкай самадзейнасці з Гайнаўкі (злева) і Бельска (справа). Час-ад часу паказалася і сонца. Хаця яно было цэлы час у душах юнакоў падчас Маладзёжнага фестыну, свята маладосці і радасці.*

Тэкст і фота — І. РЫБІНСКІ.

# Варта вырошчваць трускалкі

На Беласточчыне, параўнальна, мала вырошчваецца трускалак. Трускалкі — расліна, якая не мае вялікіх кліматычных і глебавых вымаганняў. І таму павінна быць больш папулярнай.

Цяпер паглядзім, наколькі аплачваецца вырошчванне трускалак: за 1 кг трускалак першага выбару плаціцца 9 зл; за 1 кг другога выбару — 7 зл.

З 1 га ў сярэднім можна сабраць звыш 30 цэнтнераў трускалак (3.000 кг). Прыняўшы сярэднюю цану 8 зл/кг, будзе:

3.000 x 8 = 24.000 зл.

У нашых умовах найлепш падыходзяць трускалкі гатунку Негрыцянка (Мужынка). Даюць яны найвялікшы плён.

Патрабавальнасць трускалак да вільготнасці глебы даволі высокая, асабліва ў час буйнення пладоў (май, чэрвень). У гэты перыяд дажджы павінны быць частыя але не працяглыя. Непажадана садзіць трускалкі на поўднёвых нахілах у аколіцах з частымі познімі веснавымі прымаразкамі. Поўднёвы нахіл палетка інтэнсіўна награваецца сонцам, трускалкі пачынаюць раней квітнець і познія веснавыя прымаразкі могуць моцна ім пашкодзіць.

З гэтага вывад, што трускалкі лепш садзіць на ўсходніх або заходніх нахілах (на іх трускалкі пазней квітнеюць). Асташкова можна і на поўночным нахіле.

Раннія плады можна атрымліваць і на лёгкіх, дастаткова вільготных, глебах з перагноям (прухніцай) пры інтэнсіўным угнаенні. Добра вырошчваюцца трускалкі і на лугавых глебах, наколькі ўзровень глебавых водаў не за высокі.

На мулістых або глiністых глебах трускалкі добра растуць пры адпаведным узаранні, угнаенні і ўзбагачэнні ле перагноям.

Трускалкі вымагаюць каб глеба была ў добрай агароднiцкай культуры, рыхкая і пераведная. Глеба прызначаная на плантацыю трускалак павінна быць чыстай, бо пасля цяжка ліквідаваць пустазелле. І таму найлепш закладаць плантацыю пасля прапашных культур («окоповых» — бульба, буракі). Восенню трэба глыбока ўзараць і ўгнаіць. Пры заворванні гною варта дадаць 4—6 цэнтнераў тамасыны на 1 га.

Разводзіць трускалкі можна двума спосабамі: з насенняў і саджанцамі. Лепш аднак разводзіць іх саджанцамі Тады хутчэй растуць і не змяняюць асаблівасцяў свайго гатунку. Для разводу трускалак з саджанцаў, у пачатку ліпеня да пачатку жніўня перасаджваем маладыя раслінкі ад раслін — матак і садзім у халодным інспекце ў адлегласці 6—8 см адна ад другой. Інспект трэба крыху зацяніць, сістэматычна падліваць і пасля 3—5 тыдняў саджанцы можна пасадзіць на сталыя мейсцы.

Трускалкі можна садзіць таксама і на весну, у красавіку, але ўжо ў гэты год не дадуць пладоў, або дадуць вельмі мала.

Другі перыяд саджэння трускалак, гэта палова лета (жнівень, палова верасня). Гэты перыяд з'яўляецца найлепшым, бо расліны паспеюць да зімы добра закараніцца і на наступны год даць плады. Да гэтага — глеба да паловы лета можа быць выкарыстана да пасадкі іншых культур (ранняй бульбы).

Трэці перыяд саджэння трускалак, — гэта позняя восень (II палова верасня і пачатак кастрычніка). Усё-ж такі гэты перыяд з'яўляецца найбольш небяспечным бо слаба закараніўшыеся саджанцы могуць за зіму павымерзаць.

Найчасцей вырошчваем трускалкі на роўна апрацаванай зямлі. Аднак на падмоклых глебах садзіць трускалкі ляпей на хрыбтах баразён. Пры вырошчванні трускалак на сухіх глебах або ў аколіцах з вострымі халоднымі вятрамі, найляпей садзіць іх на дне баразён. Каб забяспечыць іх перад марозамі, восенню дакладна абкладаем радкі трускалак гноем прыкрываючы крыху і самыя расліны. Гной павінен быць не за мокры, болей сухі і з саломы, — бо калі гной за мокры, расліны могуць пагнісці. На весну салому выграбаем, а сам гной трэба плытка закапаць між радкамі.

Хваробай трускалак з'яўляецца шэрая цвіль, якая неаднаразова пакрывае цэлыя лісці белымі, з чырвонымі беражкамі, плямамі. Гэту хваробу можна знішчыць апырскваючы некалькі разоў расліны 1 прац. бардоўскім растворам або 2 прац. каліфарнійскім растворам.

Моцна шкодзіць трускалкам невялічкі, шэрачорны хрушчык, да 3 мм даўжыні, які зносіць яйкі ў кветавых пупышках. Пры гэтым пад'ядае плоданожкі так, што яны абломваюцца і кветавыя пупышкі звісаюць уніз. Знішчаем гэтыя хрушчыкі пасыпваючы ў месяцы маі зямлю паміж радкамі палявым вапнам. Можна таксама збіраць іх. Другім школнікам з'яўляецца агародніца - знішчалка, якая шкілетуе лісці трускалак. Знішчаць можна толькі збіраючы яе на ранку, калі яшчэ ёсць адраншвелай.

інж. ВІТАЛІ МІРОН.




# ШЧОТКІ

Задумацца над шчоткамі складніў мяне наступны выпадак: пэндзлік да галення, які служыў мне 15 гадоў зрабіўся ўжо зусім не прыгодным. Вядома мужчына без пэндзліка, як плотнік без сякеры, дзеля таго купіў я ў ПДТ новы пэндзлік за 48 злоты.

Намыліўшыся пры дапамозе новага пэндзліка, я са здзіўленнем заўважыў, што галю не сваі валасы, а свінячыя. Вядома брытва не вытрымала і затупілася, як наша камісія пасля барацьбы са спекуляцыяй. Агледзіўшы пэндзлік я пераканаўся, што ён палысеў, бы мой дзед.

Пасля гэтага сумнага здарэння, я зацікавіўся ўсялякімі шчоткамі. Ясна, шчоткі да зубоў не кожны купляе. У каго зубоў няма, або ўстаўная сківаца таму шчотачка не патрэбная, але вось, шчотка да сукенкі — кожнаму патрэбная.

Нажаль у гэткіх шчотках валасы вылазяць калектыўна — пучкамі, як у нас члены з дрэннага сельскагаспадарчага кааператыва, пакідаючы па сабе пустое гняздо.

Бываюць яшчэ шчоткі да падлогі, доўгавалосыя, якія каштуюць ад 90 да 150 злоты штука. Замятаеш гэткай шчоткай падлогу, а валасы яе кладуцца па падлозе, як ніва пабітая градам. Гэта дзеля таго, што валасы ў шчотках надта мяккія, — хоць праўду кажучы, кій у шчотцы цвёрды.

Пацвярдзіць гэта могуць мужчыны, якіх жонкі карыстаюцца другім канцом шчоткі ў выхаваўчай мэце. Адно толькі, са шчоткамі для чышчэння коней, пакуль што, усё добра, мабыць таму, што коні не могуць жаліцца.

Наша прамысловасць ведае, аб дрэннай якасці шарсцяных шчотак і дзеля таго ў продажы знаходзяцца шчоткі нейлонавыя, драцяныя і іншыя.

Не ведаю, як іншыя грамадзяне, а я не думаю чысціць адзенне драцянай шчоткай. З валасяных шчотак самыя моцныя маюць тыя, што носяць прычоску «пад вожыка». Калі я пажаліўся перад знаёмым цырульнікам на дрэнныя пэндзлікі — ён параіў мне заказаць у Беластоку на Сенным рынку ў рамесніка і дадаў: пятнаццаць гадоў будзеце брыцца і ніводзен валасок не вылезе з яго.

Пры гэтых словах я заплакаў. Успомніўся мне мой стары, любімы пэндзлік, які служыў мне столькі-ж гадоў.

Выходзіць, што добрыя, моцныя шчоткі можна рабіць, але тады, калі вытворцы будуць цікавіцца якасцю прадукцыі, а не міжпланетнымі паведамленнямі.

Нам, дарагія грамадзяне, добрыя шчоткі патрэбны.

Толькі пры іх дапамозе мы зможам вычысціць усіх ленцяяў і бракаробаў, прымазаўшыхся да нашай вытворчасці.

*Дзядзька Лявонь*



*Бацька: — Ты ізноў двойку прынёс?*
*Маці: — Нічога, гэта апошняя ў гэтым годзе, канікулы наступаюць.* (Вожык).

## Пана, паню і дзяцей

Гэта было яшчэ за часоў паншчыны. Адзін пан патрабаваў, каб сяляне прыходзілі яго віншаваць, а хто лепш павіншуе — таму даваў падарункі.

Вось сабралося трох сялян: Мікіта, Змітра і Лявон і пайшлі віншаваць пана з Новым Годам. Мікіта меўся казаць самае павіншаванне, а Змітра і Лявон паўтараць: «пана, паню і дзяцей».

Уваходзячы ў кватэру, дзе сядзеў пан, як на няшчасце развязаўся лапаць у Мікіты. Нехта наступіў яму на абору і наш Мікіта паляцеў праз парог, як калода, аж у вачох зоркі забегалі.

— А каб цябе халера ўзяла! — кажа са злосці Мікіта.

А Змітра і Лявон дабаўляюць:

— Пана, паню і дзяцей!

Што далей рабілася, — кожны можа здагадацца.

### Ашуканец

— І вы хочаце аддаць сваю дачку за гэтага тыпа? А вы ведаеце, што ён сядзеў чатыры гады ў крымінале?

— Вось як? А то ашуканец! Мне казаў, што сядзеў усяго два гады.

### Адважная

Жонка: Калі ты яшчэ хоць раз прыдзеш гэтак позна дамоў, — дык я не вытрываю і кінуся ў возера!

Муж: Нічога, жартуеш... Там і так шмат гусей плавае.

### Непаслухмяная



*Колькі разоў я цябе прасіў, каб ты не адзявала майго світра!* P.

# КАЛІНА — МАЛІНА

Весела, бадзёра.




*Каліна - маліна, што не зеляннееш?*
*Ці сушы баішся, ці лугу жалееш?*
*— Сушы не баюся, лугу не жалею,*
*На гарэ высокай, той не зелянею.*
*— Малады малойчык, чаго зажурыўся?*
*Ці айца жалееш, ці вайны баішся?*
*— Айца не жалею, вайны не баюся, —*
*Любіў дзяўчыноньку, цяпер расстаюся.*
*Як мы любіліся — нас маці ня знала,*
*Цяпер расстаемся, як чорная хмара.*
*Чорна хмара ідзе, дробны дожджык будзе,*
*З нашага кахання нічога ня будзе.*
*Не хадзі па полю, не збірай куколю,*
*Не маргай вачыма — не твая дзяўчына;*
*Не твая стаенка, бо ты не будоваў, —*
*Не твая дзяўчына, бо ты не гадоваў.*
*Дана мая, дана, не пайду за пана,*
*Пайду за такога, якая я сама.*

## ЛІКАВАЯ АДГАДАНКА



У прадзеле ад 1 — 15-ці выбярыце сабе 13 цэлых лікаў (у гэтым 11 парадкавых, а два аднолькавых) і ўстаўце ў гэту фігуру так, каб сума трох лікаў распалажаных уздоўж кожнай простай лініі вынясла 20.

Сярод тых чытачоў, якія да 25 чэрвеня г. г. прышлюць правільныя развязкі будзе разлясавана 10 кніжных узнагарод. P.

## АД НАСТАЎНІКА МНОГА ЗАЛЕЖЫЦЬ

Лёгка сказаць: «Будучыня нашых дзяцей у многім залежыць ад таго, як працуе настаўнік, як ён выхоўвае іх».

У нашых абставінах важнай справай з'яўляецца тое, каб беларускі настаўнік поўнасцю ўсведамляў сабе, якую ролю ён адыгрывае ў беларускім асяроддзі. Усім вядома, што ў нас, на Беласточчыне, у беларусаў вельмі мала нацыянальнай гордасці, таму, што як пісаў Колас у сваім творы «У палескай глушы»: «На галаву беларускага народа, многа выліта памыяў, годнасць яго прыніжана і мова яго асмеяна, у яго няма імя, няма твару».

Вось усе патрыёты свайго народа, тыя людзі, якія любяць свой народ, сваю мову, сваю культуру павінны гэтую нацыянальную гордасць узнімаць на вышэйшы ўзровень, яна павінна так выдзяляцца, як выдзяляецца ў палякаў, рускіх, немцаў і іншых нацыі. Настаўнікі маюць аргомныя магчымасці ў школе і паза школай выконваць гэтыя ганаровыя і важныя заданні.

Прыкладам можа быць настаўніца беларускай мовы з вёскі Рыбакі (Гайнаўскі павет) — Ніна Бура. Яна не толькі вучняў умее зацікавіць прыгожасцю сваёй мовы і літаратуры, але таксама і жыхароў сваёй вёскі. Выкарыстоўвае ўсё тое, што сапраўды можа ўзбуджаць нацыянальную гордасць. Яна карыстаецца класічнаи беларускай літаратурай, а вельмі часта артыкуламі і творамі маладых паэтаў Беласточчыны, якія публікуюцца ў «Ніве».

Ніна Бура так піша аб першамайскай акадэміі: «Акадэмія сапраўды нам удалася. Адчувалася вялікае здавальненне сярод нашых жыхароў з выпадку таго, што да іх прамовілася беларускім словам. Яны адчулі, мілагучнасць і прыгожасць беларускай мовы, што на беларускай мове можна выражаць высокія пачуцці, жартаваць, а пры тым ад душы смяяцца. Выкарысталі мы поўнасцю «Ніву», паказалі яе вартасці нашым сялянам. Верш «Доктар», надрукаваны ў «Ніве» мы перарабілі на скетч, які вельмі ўсім спадабаўся».

Трэба сказаць, што Ніна Бура, добра валодае беларускай мовай, вельмі яе любіць і сама таксама піша многа скетчаў дапасаваных да асяроддзя.

Было-б вельмі добра, каб усе беларускія настаўнікі працавалі так, як Ніна Бура. Яны, як народныя трыбуны дапамаглі-б беларускаму насельніцтву ўсведаміць сабе сваю нацыянальнасць. М. Х.

### Развязка красворда з 20 нумара «Нівы»

ПА ВЕРТЫКАЛІ:

1) хор, 2) набор, 3) чыжык,
4) бок, 5) сук, 9) шыя.

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:

2) ноч, 4) Барыс, 6) боб,
7) жук, 8) кошык, 10) рык.

Кніжныя ўзнагароды атрымалі:
1) Яўгіня Казлоўская — Бельск-Падляскі, 2) Марыя Марусевіч — Аўгустова, Бельскі павет, 3) Юрка Стэфанюк — Малінніκі, Бельскі павет, 4) Галена Місеюк — Крынкі, 5) Анатоль Гутнік — Модлін - Крэпасць, 6) Алесь Гігель — Зубры, Беластоцкі павет, 7) Уладзімір Прахорук — Беласток, 8) Людміла Хмель — Вітава, Гайнаўскі павет, 9) Ніна Шатыловіч — Варшава, 10) Лідыя Міронюк — Дэніскі, Бельскі павет.

Узнагароды высылаем поштай. P.

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

„NIWA" Organ Białoruskiego Towarzystwa Społeczno - Kulturalnego w Białymstoku. Adres redakcji: Białystok, ul. Manifestu Lipcowego 25. tel. 25-89. Warunki prenumeraty: miesięczna — 2.40 zł; kwartalna — 7.20 zł. półroczna 14.40. roczna 28.80. Prenumeratę przyjmują wszystkie urzędy pocztowe i listonosze. Wydawnictwo: RSW „Prasa".
Prenumeratę ze zleceniem wysyłki zagranicę przyjmuje PKWZ „Ruch" Warszawa Należność wpłacać na konto PKO I-6-100024 Warszawa Cena prenumeraty z wysyłką zagranicę wynosi: kwartalnie 10.15 zł, półrocznie 20,30 zł, rocznie 40,60 zł. Druk Białostockie Zakłady Graficzne, Nakład 5.500 T-10